раздзеле аўтар кораценька прадстаўляе чытачу найбольш вядомыя крынкаўскія дынастыі, структуру і форму асветы, а таксама старонкі сапраўднага гарадскога жыцця ў мястэчку. Як вынікае з тэксту, расейская ўлада і бюракратыя не асмеліліся надаць гарадскі статус Крынкам у канцы XIX — пачатку XX ст. В. Карнялюк спецыяльна вылучае раздзел *Змаганне*, у якім асвятляе пратэсты крынкаўцаў — адзін раз супроць адбірання мяшчанскіх вольнасцяў у першай палове XIX ст.; другім разам лёсы шляхецкага студзеньскага паўстання 1863 года; трэцім разам — сацыяльны пратэст 1904-1905 гг. пад уплывам сацыялістычнай прапаганды. Апошні чацьвёрты раздзел прысвечаны ваенным старонкам у гісторыі мястэчка Крынкі. Гэта эпізод з напалеонаўскай вайны 1812 г. і цяжкія часы Першай сусветнай вайны 1914-1918 гг.

Вартымі ўвагі і цікавымі ўяўляюцца дадаткі да кнігі В. Карнелюка пра Крынкі. Гэта спіс насельніцтва мястэчка па выніках 5-ых рэвізскіх казак 1795 г.; падрабязны інвентар маёнтка Крынкі з лістапада 1845 г.; спісы мяшчан хрысціян і сялян, якія валодалі маёмасцю ў мястэчку. Карыснымі з'яўляюцца фрагменты картаў з лакалізацыяй Крынак — І. М. Пробста з 1753 г., з „Гістарычнага атласа" Іаахіма Лялевеля (праўда, Крынак там я не знайшоў), тапаграфічнай з 1903 г. і з зімы 1915 г.; а таксама 2 планы з 1879 і 1886 г. і тры архітэктурныя планы мураваных пабудоў: а) каменнай аднапавярховай прыбудовы для мыцця воўны каля млына з 1896 г.; план вінакурнага завода за 1888 г. і план будынка, у якім размяшчаўся кінематограф „Мадэрн" з 1914 г.

Найбольшае пытанне да аўтара з боку рэцэнзента выклікае пералічэнне ў „Літаратуры і крыніцах" голых нумароў фондаў з НГАБ у Гродне. Варта было б пры нумарах падаць назвы гэтых фондаў, а яшчэ лепей — зрабіць археаграфічны аналіз матэрыялаў з дадзеных фондаў, якія датычацца мінулага Крынак. Тады чытач даведаўся бы, што Фонд 8 „Гродзенская губернаскае будаўнічае аддзяленне" ўтрымлівае шматлікія справы па будаўніцтве і перабудове культавых, жылых, гаспадарчых, прамысловых і гандлёвых, культурных і асветніцткіх будынкаў, а таксама правілы будаўнічай палітыкі Расейскай імперыі, кошты і якасьць будаўнічых матэрыялаў і прац. А фонд 14 „Гродзенскі губернскі статыстычны камітэт" — гэта скарбніца інфармацыі па разнастайных пытаннях штодзённага жыцця, дэмаграфіі, эканамічнай, рэлігійнай і нацыянальнай сітуацыі. І падобна з іншымі фондамі.

Пэўную нязгоду выклікаюць некаторыя тэрміналагічныя паняцці: на с. 8 — адзначана пад 1659-1660 г. спусташэнне Крынак падчас „рускапольскай вайны". Падобнае акрэсленне вайны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскім царствам у сярэдзіне XVII ст. з'яўляецца поўным анахранізмам, асабліва з пункту гледжання беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. У храналагічным спісе на пачатку кнігі, на жаль, не знайш-

лося даты для царквы ў Крынках да 1839 г. Вядомы падляшскі гісторык праф. Антон Мірановіч падае дату 1578 г. для першай праваслаўнай крынкаўскай парафіі[1]. Хочацца таксама запытацца ў аўтара, чаму для дызайна вокладкі ім быў выкарыстаны дакумент пра Матвея, сына Адама Ядкоўскага з шляхецкай ваколіцы Малыя Ёдкавічы, а не які-небудзь непасрэдна звязаны з Крынкамі? Можна толькі пашкадаваць, што Віталь Карнялюк у сваёй кнізе не прадставіў радавод роду Яновічаў, з тых, што паходзіць вядомы беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч. Пералічыўшы ўсе сем'і Яновічаў, што пражывалі ў Крынках у першыя 60 год XIX ст., аўтар не паведамляе, з якой звязаны сучасны творца.

Натуральна, аўтар Віталь Карнялюк не змог ахапіць яшчэ шмат якія бакі мінулага Крынак пад час расейскага панавання, у чым ён сам прызнаецца ў заключэнні. Аднак падмурак ім закладзены, накірункі і методыкі асветлены. Больш таго, падобныя кнігі спрыяюць актывізацыі рэгіянальных даследаванняў па іншых гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі. На жаль, глыбокае і сэнсоўнае даследаванне гарадзенскага гісторыка, прысвечанае сучаснаму падляшскаму мястэчку Крынкі ў часы расейскай імперыі, выдадзена малым накладам у малавядомым выдавецтве.

**Генадзь Семянчук**
(Гродна)

[1] A. Mironowicz, *Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku*, Białystok 1991, s. 268.

## В. І. Крывуць, *Пад шыльдай „дзяржаўнага выхавання”: рэалізацыя ўрадавых выхаваўчых канцэпцый на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1926-1939)*, Баранавічы: РВА БарДУ, 2010, 195 с. Наклад 110 экз.

Беларуская гістарычная навука апошнім часам адчула прыток новых імёнаў. Іх з'яўленне ў Мінску ўспрымаецца натуральна. Не дзівіць даследчыцкая выніковасць і навукоўцаў у абласных цэнтрах, перш за ўсё ў Берасці і Гародні. А вось трэцяя кніга за тры гады гісторыка Віталя Крывуця з Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта — гэта можна ўспрыняць як дасягненне. І не толькі таму, што такая навуковая пладавітасць — гэта рэдкасць для глыбінкі. Але яшчэ і з прычыны невясёла вясёлай славы, якая характарызуе названую навучальную ўстанову і яе супрацоўнікаў.

Займаючыся моладзевай тэматыкай на тэрыторыі міжваеннай Заходняй Беларусі, В. Крывуць і гэтым разам знайшоў адзін малавядомы для айчыннага дыскурсу бок — фарміраванне і ажыццяўленне афіцыйнай выхаваўчай палітыкі ІІ Рэчы Паспалітай стасоўна заходнебеларускага падрастаючага пакалення. Адзначым, што гэтым разам выданне ўбачыла свет менавіта пад шыльдай БарДУ. Добра, што ўбогі ўніверсітэт падтрымлівае даследчыкаў.

Невялікая кніга на дзве сотні старонак атрымалася ладнай. Рэцэнзенты, аднак, насцярожылі. Першы — доктар навук Аляксандр Каваленя — вядомы сваёй ідэалагічнай заангажаванасцю. Другі — кандыдат навук Юрый Чарняк — пакуль нічым сябе не праявіў. Але, ведаючы, што рэцэнзаванне ў беларускай гістарычнай навуцы нярэдка бывае фармальнасцю, варта ў такіх выпадках спадзявацца на аўтара. В. Крывуць жа папярэднімі манаграфічнымі публікацыямі сябе зарэкамендаваў (гл. яго: *Молодежные организации на территории Западной Беларуси (1929-1939 гг.)*, Минск 2008; *Молодежная политика польских властей на территории Западной Беларуси (1926-1939 гг.)*, Минск 2009).

Стыль работ В. Крывуця характарызуецца рэдкай па сённяшнім мадэрнісцкім часе акадэмічнасцю. Уводзінамі Аўтар стварае агульную карціну сацыяльна-палітычнага жыцця на „крэсах усходніх”, лаканічна акрэслівае і абгрунтоўвае тэму свайго даследавання, яго актуальнасць. Сапраўды, вывучэнне досведу дзяржаўнай выхаваўчай палітыкі заўсёды будзе неабходным як „прыклад практычнага ажыццяўлення ідэйна-выхаваўчай работы сярод маладога пакалення” (с. 8). А даследчыкам аналагічных аспектаў савецкай гісторыі работы В. Крывуця паслужаць добрым матэрыялам для параўнання.

Працуючы над разглядаемай кнігай, Аўтар пераварнуў салідны пласт польскай гістарыяграфіі па тэме. Яе доля складае $^3/_4$ з агульных больш чым 200 пазіцый у спісе літаратуры і крыніц. Апошніх, праўда, як па-

даецца, магло б быць і больш. Польскіх архіваў, да прыкладу, не відно зусім. Няма і ўспамінаў, якія б ажывілі даследаванне, прыўнеслі б у яго трохі гэтак моднай сёння антрапалагічнасці (хаця, відавочна, гэтага на мэце і не ставілася). Папрацаваўшы ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці і Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, даследчык нічога не скарыстаў з багацейшых гродзенскіх дакументальных залежаў. Тым не менш гэта не перашкодзіла стварыць паўнавартасную карціну рэалізацыі выхаваўчых канцэпцый у міжваеннай Заходняй Беларусі, сярод якіх дамінавала так званае „дзяржаўнае выхаванне”.

Даследаванне праведзена фактычна па ўсёй II Рэчы Паспалітай. Працэсы на яе беларускай частцы разглядаюцца хутчэй у агульным кантэксце. І гэта зразумела: цэнтр палітычнага жыцця знаходзіўся ў Варшаве, аднак дзяржаўнае кіраўніцтва не магло ігнараваць спецыфіку рэгіёнаў.

Каб прадэманстраваць, да якога матэрыялу прымяняліся тэорыі „дзяржаўнага выхавання”, В. Крывуць уводзіць параграф пра дэмаграфічную сітуацыю ў тагачаснай Польшчы, у якім паказвае, што стан здароўя ў падрастаючага пакалення ўсходніх ваяводстваў значна саступаў агульнапольскаму ўзроўню: павышаная дзіцячая смяротнасць, кепская гігіена і харчаванне, хваробы — вось чым характарызавалася жыццё беларусаў. Асаблівую занепакоенасць выклікала слабае фізічнае развіццё прызыўнікоў. Часам толькі 20% (!) адпавядала неабходным для службы нормам, а паказчык у 60% для якой-небудзь вёскі лічыўся ледзь не ўзорным (с. 22).

В. Крывуць разглядае тут жа і нацыянальныя прапорцыі, прыводзячы альтэрнатыўныя дадзеныя, асабіста схіляючыся да перавагі насельніцтва беларускай нацыянальнасці, асабліва сярод моладзі (нараджальнасць у беларускіх сем’ях была вышэйшай) (с. 26). Варта заўважыць, што гэты параграф з’яўляецца хутчэй пэўнай сінтэзай наяўных у гістарыяграфіі звестак, чым аўтарскім даследаваннем, якое фактычна пачынаецца ў далейшым, калі спасылак на першакрыніцы значна большае.

Генезіс выхаваўчых канцэпцый Аўтар справядліва пачынае з часу адраджэння польскай дзяржаўнасці ў 1918 г., калі вялі палітычны рэй нацыянал-дэмакраты. У справе духоўнага кшталтвання моладзі адпаведна пераважалі ідэі „нацыянальнага выхавання” (с. 27). Аўтар адзначае іх шавіністычны характар і скіраванасць на адкрытую паланізацыю (с. 29). Пасля перавароту 1926 г., нягледзячы на дэкларацыі „санатараў” аб „дзяржаўным выхаванні”, для нацыянальных меншасцей мала што змянілася (с. 31). В. Крывуць разглядае станаўленне новай канцэпцыі, яе падставовыя палажэнні і прынцыпы, галоўных ідэолагаў, адзначае пашырэнне культу асобы Юзафа Пілсудскага (с. 35). У гэтым параграфе падаецца агульны кантэкст, нейкіх спецыфічна беларускіх момантаў няма. Думаецца, яго матэрыял характарызуецца навізной толькі для беларускага гістарыяграфічнага дыскурсу, а ў многім

гэта добрая, кампактная перадача вядомых ужо ўведзеных у навуковы зварот матэрыялаў (нават выснова па параграфе заканчваецца спасылкай на польскую манаграфію — с. 37). Хаця і якасная творчая перапрацоўка вынікаў польскай гістарычнай навукі з нярэдкім прымяненнем інфармацыі першакрыніц робіць Аўтару гонар.

У развіцці тэорыі „дзяржаўнага выхавання" В. Крывуць лагічна прытрымліваецца падзелу на два этапы, пераходным пунктам між якімі стала смерць Ю. Пілсудскага, што прывяло да „перападзелу" ўплываў і — адпаведна — на карэкціроўку тэорыі (с. 38). Адзначае і фактар знешняй пагрозы, які актывізаваў фарміраванне „мілітарысцкага стану свядомасці" (с. 40). Дзве дзяржаўныя структуры, якія былі галоўнымі і мэтай, і сродкам у рэалізацыі выхаваўчай палітыкі, — школа і армія — павялічылі ўзаемасувязь (с. 41).

У цэлым В. Крывуць ацэньвае „санацыйную" выхаваўчыю канцэпцыю як даволі стройную і распрацаваную сістэму, якая мае практычную скіраванасць. Адмоўныя бакі яму бачацца ў навязванні ідэалаў і трохі пазнейшым перайманні метадаў і ідэй эндэцкага „нацыянальнага выхавання" (с. 43). Гэта стала чыннікам кепскай эфектыўнасці дзяржаўнай выхаваўчай палітыкі на заходнебеларускай тэрыторыі, чаму Аўтар прысвяціў дзве наступныя главы.

Калі першыя дзве главы ў манаграфіі В. Крывуця адыгрываюць фактычна ўводную ролю, то дзве астатнія якраз і раскрываюць тэму, заяўленую ў назве работы, бо прысвечаны рэалізацыі канцэпцыі „дзяржаўнага выхавання" ў школе (3-я глава) і па-за школай (4-я). На пачатку 3-й главы Аўтар расказвае пра школьную сістэму на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Беларускаму чытачу цікава будзе даведацца, што „поўны курс агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, які даваў права на паступленне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, працягваўся 12 год" (с. 52). Г.зн. сёння ў Рэспубліцы Беларусь яшчэ не дайшлі да таго, што палякі мелі ўжо тады. Трэба сказаць, што Аўтар неаднаразова прыводзіць прыклады палітыкі адносна беларушчыны, якія хоцькі-няхоцькі пераклікаюцца з днём сённяшнім, і толькі навуковыя рамкі не дазваляюць акрэсліць гэтыя паралелі. Ці ж застанецца без асацыяцый з сучаснасцю яшчэ адзін пасаж В. Крывуця? «Ю. Пілсудскі (...) быў прыхільнікам захавання польскай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай, а ў адносінах да беларускай мовы сцвярджаў, што яна з'яўляецца „такой цяжкай і нераспрацаванай, што не можа быць мовай школы і кіравання"» (с. 60). Ці наступны: «Усё, што лічылася несправядлівасцю ці крыўдай, зараз жа атрымлівала каментар: „Мусіць Маршал Пілсудскі аб гэтым не ведае, бо каб ведаў, то такога б не было"» (с. 73-74). Такія моманты, тоесныя з сённяшнімі, сведчаць, што гістарычны вопыт дзіцячага выхавання II Рэчы Паспалітай можа быць карысны і сёння.

Школа II Рэчы Паспалітай сама па сабе была выхаваўчым інстытутам (параграф 3.2.). Акром таго, школьная моладзь ахоплівалася разнастайнымі арганізацыямі (параграф 3.3.). Асаблівую ўвагу ў школе удзялялі, зразумела, гуманітарным прадметам, перш за ўсё гісторыі, што скрупулёзна разглядаецца В. Крывуцем. Школьнікаў, не зважаючы на этнічную прыналежнасць, вучылі ганарыцца мінулым польскага народа, падаваемым у нацыяналістычным ключы. А асоба Ю. Пілсудскага яшчэ пры яго жыцці стала культываваецца.

В. Крывуць прасочвае змены ў школьнай адукацыі. У прыватнасці адзначае, што ў другой палове 1930-х гг. ваенная тэматыка пашырылася, „узрастала роля і такога прадмета, як ваенная падрыхтоўка” (с. 76). Нават ствараліся адпаведныя атрады са школьнікаў, якія дасягнулі 16 гадоў (пасля прыходу савецкай улады ўзроставая планка школьнікаў, якія займаліся ваеннай падрыхтоўкай знізілася да 12 (!) гадоў)[1].

Паланізатарскі курс школьнай адукацыі працягвалі і ўмацоўвалі маладзёжныя грамадскія арганізацыі. В. Крывуць кажа пра шырокі спектр арганізацый, аб’яднанняў, гурткоў. Пры ўсёй іх абмежаванасці дзяржаўнай дактрынай і падкрантрольнасці ўладам іх альтэрнатыўнасць уражвае, асабліва калі ўспамінаць савецкія аналагі. Не абавязкова маладзёжныя арганізацыі II Рэчы Паспалітай мелі палітычны характар (да прыкладу, былі краязнаўчы гурткі, структуры Чырвонага Крыжа, этычныя аб’яднанні (па праблеме алкагалізму), рэлігійныя, спартыўныя, артыстычныя ўтварэнні). Праўда, галоўнай мэтай, маяком з’яўляліся дзяржаўныя каштоўнасці.

В. Крывуць разглядае маладзёжны рух лаканічна, але змястоўна. Найбольш значным удзяляе больш увагі, як, напрыклад, Саюзу польскага харцэрства. Паказвае, што распаўсюджанымі формамі грамадскай актыўнасці школьнікаў сталі вучнёўскае самакіраванне і школьная кааперацыя (с. 101). Прадстаўлены Аўтарам матэрыял дазваляе зразумець, чаму такую высокую ступень антысавецкасці праявіла моладзь, у тым ліку заходнебеларуская, пры прыходзе саветаў восенню 1939 г.[2]

Шырока разгледжана ў манаграфіі тэма „дзяржаўнага выхавання” пазашкольнай моладзі. Аўтар напачатку главы тлумачыць, што паколькі асноўная маса дзяцей далей усеагульнай школы не ішла, але не павінна была выпадаць з-пад увагі ўлады, то «ажыццяўленне канцэпцыі „дзяржаўнага выхавання” адводзілася шматлікім праўрадавым моладзевым арганізацыям» (с. 102). Іх В. Крывуць не толькі называе, акрэсліваючы

[1] *Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. 1917-1941*, Москва 1980, с. 413.

[2] А. Трофимчик, *Оппозиционные настроения и антисоветская деятельность в школах западных областей БССР. Меры по их ликвидации (репрессии)*, «Перекрестки», 2009, №1-2, с. 134-170.

пры гэтым дзейнасць (параграф 4.1.), але і разглядае барацьбу „санацыйных” колаў за ўплыў на студэнцтва і маладую інтэлігенцыю (параграф 4.2.), а таксама ўдзел дзяржаўных і грамадскіх структур II Рэчы Паспалітай у рэалізацыі канцэпцыі „дзяржаўнага выхавання (параграф 4.3.).

Па назвах структурных адзінак манаграфіі ўжо відаць, што за ўздзеянне на заходнебеларускую моладзь мелася нават пэўная канкурэнцыя. Аналіз жа дэманструе, што, нягледзячы на дзяржаўніцкі дыктат, існавалі арганізацыі з рознай ступенню дэмакратычнасці (напрыклад, параўнаўча больш дэмакратычным быў „Сеў” — Саюз вясковай моладзі, які найбольшую актыўнасць праяўляў на тэрыторыі Заходняй Беларусі, с. 107, 118). Аўтар раскрывае механізмы іх дзейнасці, кантынгент той ці іншай арганізацыі, ролю настаўнікаў і мясцовых чыноўнікаў, у рэшце рэшт фінансаванне і бухгалтэрыю. Выяўляюцца і дасягненні, і недахопы (прычым В. Крывуць стараецца гэта паказаць у нейтральным ключы, а не праз прызму заходніх беларусаў ці з пазіцый тагачаснай польскай палітыкі. Даследчык даводзіць, што на заходнебеларускай тэрыторыі дзейнасці як школьных, так і пазашкольных арганізацый, надавалася большае значэнне, чым на этнічна польскіх землях, на якіх моладзь і так выяўляла вялікую ступень патрыятызму.

Асобна В. Крывуць разглядае працу дзяржавы са студэнцтвам, хаця на тэрыторыі „ўсходніх крэсаў” мелася тады толькі адна вышэйшая навучальная ўстанова — Віленскі ўніверсітэт. У выніку аналізу дзейнасці арганізацый, якія працавалі са студэнцкай моладдзю, Аўтар прыходзіць да тэзіса, што „нягледзячы на такую ангажаванасць у карпарацыйнае жыццё прадстаўнікоў кіруючых колаў II Рэчы Паспалітай, большасць віленскіх карпарацый, як і ў іншых універсітэтах Польшчы, заставалася пад уплывам польскіх нацыяналістаў і фактычна знаходзілася ў апазіцыі да рэжыму „санацыі” (с. 136). Даходзіла нават да хваляванняў! Даследчык дэманструе, што ў студэнцкім асяродку была вялікая ступень лібералізму, праўда, са сваёй спецыфікай міжваеннага тагачасся ў Польшчы.

Тым не менш было нечакана ўбачыць інфармацыю, што афіцыйна існавалі арганізацыі з ідэалогіяй, якая разыходзілася з дзяржаўнай. Так, Легіён маладых выкарыстоўваў „антыкапіталістычную фразеалогію” і антыклерыкалізм, што прывабліва моладзь Заходняй Беларусі (с. 154).

В. Крывуць прыходзіць да высновы, што палітыка „санацыі” не мела значных поспехаў у барацьбе за ўплыў на студэнцкую моладзь і маладую інтэлігенцыю (с. 158).

Разглядаючы ролю дзяржаўных і грамадскіх структур у „дзяржаўным выхаванні”, Аўтар справядліва выдзяляе Войска Польскае. Ён апісвае, як тое выхаванне праз армію адбывался на практыцы. Прычым не толькі ў рамках службы, але і па-за ёю — адносна школьнай моладзі, напрыклад. Адзначаецца, што ў выхаваўчым кірунку вялі працу Кор-

пус аховы памежжа, дзяржаўная паліцыя, невайсковыя (але звязаныя з арміяй) грамадскія арганізацыі (Польскі Белы Крыж, Саюз асаднікаў), а таксама шэраг іншых. Прыводзяцца канкрэтныя прыклады іх дзейнасці на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

У заключэнні В. Крывуць яшчэ раз паўтарае словы пра „санацыйную" выхаваўчую канцэпцыю як „даволі стройную і распрацаваную сістэму" (с. 174). Але і без хібаў не абышлося: напрыклад, адзначае Аўтар, эфектыўнай рэалізацыі канцэпцыі „дзяржаўнага выхавання" перашкаджала „ігнараванне культурна-асветніцкіх патрэб нацыянальных меншасцяў" (с. 175).

Да тэксту манаграфіі далучаюцца два дадаткі — дакументы, непасрэдна датычныя тэмы. Самі па сабе цікавыя, яны набылі б большае значэнне ў дадзеным даследаванні, каб былі „прывязанымі" да тэксту, прааналізаванымі па ходу разважанняў.

Нейкіх прынцыповых заўваг даследаванне не выклікае. Хіба толькі пажаданне шырэй карыстацца польскімі архівамі і тым самым больш уводзіць матэрыялаў практычнага характару (расказваць пра падзеі, пра жывога чалавека ў кантэксце тых падзей і працэсаў). Кідаецца ў вочы таксама карэктура. На ёй, пэўна, Баранавіцкі ўніверсітэт вырашыў трохі зэканоміць. Хоць рука карэктара і адчуваецца, але некаторыя „ляпы" накшталт напісання слова „інтэл**е**генцыя" (с. 158) выяўляюць непісьменнасць чалавека, які не захацеў ставіць сваё прозвішча ў якасці карэктара (дадзены прыклад звычайна прыводзіцца ў якасці сімвала непісьменнасці з вывядзеннем лексемы „інтэл**е**генцыя" ад расійскага слова „телега").

Напрыканцы варта сказаць, што пладавітасць Аўтара дае падставу чакаць у недалёкай будучыні чарговых манаграфічных вынікаў яго даследчыцкай працы.

**Анатоль Трафімчык**
(Мінск)

**Boris Ragula, *Against the Current: The Memoirs of Boris Ragula (as told to Dr Inge Sanmiya)*. Montreal and Kingston: McGills-Queen's University Press, 2005. XIV, 186 pp.**

Students of Belarusian history may be familiar with the name Ragula from the senator Vasil' Ragula, one of the very few Belarusian members of the Polish Senate during the 1920s and 1930s. Vasil's nephew, Boris Ragula, sometimes also surface in the post-Soviet Belarusian historiography. During Soviet times, Boris Ragula was persona non grata. In the Lukashenka-era historiography, he surface primarily in the role as a pro-Nazi collaborationist, siding with Radislau Ostrowski and the German-supported Belarusian Central Council (*Belaruskaia Tsentralnaia Rada*) during the second half of what is still called The Great Patriotic War in Belarus.

Yet for Ragula, the war began earlier, as he fell into German captivity as a soldier in the Polish army during the first weeks of World War II. Against all odds, Ragula managed to escape his captors. Unaware of just how oppressive the political situation was in Soviet Belarus after the 1939 Soviet occupation, Ragula illegally crossed the Soviet border and made it back to his hometown of Navahrudak. There he was soon made aware of the realities of Stalin's political terror. In 1941 he was arrested by the NKVD and subjected to months of torture aimed at making him confess to being a spy. Without confessing to the allegations, Ragula was sentenced to death as a foreign spy. Only the Nazi attack on the Soviet Union in June of 1941 prevented the penalty from being carried out. One of the most interesting and disturbing episodes of the book is Ragula's eye witness account of the NKVD torture chambers and death row. Many other Belarusians, Poles, Ukrainians, Jews and Balts met a similar destiny in Soviet prisons during the brutal occupation of 1939-41, but few were able to escape the chambers of death. Many Soviet prisoners in the borderlands were murdered en masse when it became clear that the NKVD would not be able to evacuate their prisoners eastwards, following the German surprise attack. Ragula is one of few who lived to tell his story.

After being liberated from the NKVD by the Nazis, Ragula did what the NKVD had feared that he would. Along with many other Belarusian nationalists, some with a background in the nationalist left, others from the right or the small Belarusian Nazi party, Ragula became one of the more important members of the collaborationist Belarusian Central Council. This is the role for which Ragula is best remembered for. Somewhat disappointingly, this episode does not get the attention this reviewer had hoped for.

In Ragula's memoirs, there is little or no evidence about the pro-Nazi orientation of Ostrowski and the Rada. If anything, in his political activities during the war, Ragula depicts himself as an anti-Nazi resistance fighter.

Ragula consistently depicts his cooperation with the Nazis as a strictly strategic alliance or even as a way to undermine German rule. For instance, Ragula participated in the publication of the collaborationist *BNP Bulletin*. Yet in Ragula's account this journal is presented as being opposed to the Nazis. „In the BNP Bulletin, Belarusians first read about the oppressive conditions imposed on „volunteer" workers in Germany as well as Hitler's ideology of eliminating „inferior" races, the extermination of Jews, and Nazi atrocities." (71)

There is almost no mentioning of the Holocaust. Given that almost the entire Jewish population of Belarus was eliminated during the first year of the war at the hands of German *Einsatzgruppen*, aided by collaborationist forces, Ragula's words that „despite the escalating threats of the Red Guerillas, 1941-42 was a golden year for our national aspirations" (72) have an eerie sound.

After Stalingrad, Hitler decided to enlist the help of some of the conquered people in the east. His 1940 order not allowing any people east of the Elbe to carry arms was cancelled, and several collaborationist auxiliary military formations were formed. In the fall of 1943, Ragula became the leader of the so-called Belarusian Eskadron, in which he commanded up to 450 men in German uniform. The main task of the Eskadron was to fight Belarusian pro-Soviet partisans. In his biography, Ragula omits the fact that he also served as a major in the Belarusian *Waffen-SS* and actively continued recruiting volunteers for the SS among Belarusian POWs even after the Germans had been expelled from Soviet Belarus.

From Ragula's memoirs, the reader gets a vague idea of the political aims of the Rada and its leaders. „Anti-Semitism, in all its loathsome forms, did exist in Belarus. There was even a Belarusian Nazi Party (which ultimately failed to gain widespread support for German policies). However, the majority of Belarusians demonstrated a subtle passive resistance towards the unsavoury German directives," Ragula writes. (80) While it is certainly true that organized anti-Semitism was much weaker in Belarus than among its neighbors and that the anti-German partisan activities in Belarus were so substantial that they became a part of the national mythology of the republic, it is questionable whether this would be an appropriate description of Ostrowski and his collaborationist Rada, of which Ragula was an active member.

„Governor General von Gottberg had called Professor Ostrowski, a former director of the Polish gymnasium in Vilnius during the Polish regime, to Minsk during the early part of 1943, and he had instructed him to organize a Belarusian Central Rada (council). This body had no significant administrative power, and many Belarusians perceived its creation as just another ploy to bolster their allegiance to the Germans, but when I met Ostrowski I sensed that he shared our dream of an independent Belarus. ... I suspec-

ted that Ostrowski tacitly approved of the activities of the Belarusian underground, because in the spring of 1943 he asked me to be the Rada's representative in Navahrudak."(83)

The reader is not informed that this is the same Ostrowski who blamed the misfortunes of Belarus on the „Muscovite Bolshevik Yids,"[1] and actively worked for the victory of Nazi Germany until the bitter end. In 1944, Ostrowski still ended his speeches with statements like „Heil Hitler!" and „Long live the victorious German Army and its Führer Adolf Hitler!"[2]

After the war, Ragula worked for the American intelligence. In 1952-53 he was involved in a failed project to parachute western spies into Soviet Belarus.[3] Unfortunately, there is no mention of these episodes in Ragula's memoirs. Instead, Ragula dedicates almost one third of his book to his postwar career as a physician in London, Ontario. Ragula took much interest in Belarus and was a pillar of the Belarusian government-in-exile, even serving as its president in 1996-98. While Ragula appears to have been working as a dedicated and selfless philanthropist, treating his patients for free or „taking payment for my services in the form of eggs, cabbage rolls, and other goods" (125) his biography leaves many questions unanswered.

Like so many other Belarusians, Ukrainians and Balts, Ragula was forced to make some very hard choices during his life, literally having to choose between Hitler and Stalin. Such choices could not have been easy. Unlike Ostrowski, Ragula does not appear to have been an anti-Semite, and his sympathies, while decidedly anti-Communist, lied with Belarusian nationalism rather than with the Nazis. Nevertheless, by his service in the SS, Ragula worked for a Nazi victory during World War II.

Given its massive impact, World War II remains central to Belarusian national consciousness. Belarus lost about one third of its population, more than any other country in Europe. Ragula, taking the German side, remains a controversial figure. While he figures in largely negative connotations in the contemporary Belarusian historiography, Ragula's memoirs highlights that he was a multi-faceted person, who seemed genuinely dedicated to the welfare of Belarus. Inge Sanmiya and McGill-Queen University press has done a commendable job by striving to enter Belarusian history into the European narrative. Ragula's memoirs, while incomplete and — for obvious reasons — highly subjective, sheds light on an under-researched part of European history, and highlights some of the wartime ethical dilemmas faced by peoples in Eastern Europe.

[1] А. К. Соловьев, *Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах*, Минск: Навука і тэхніка, 1995, с. 46.

[2] Там жа, с. 117, 123.

[3] Там жа, с. 97.

The editors could have done a better job editing Charles Ruud's and Inge Sanmiya's footnotes, and remarks, eliminating some of the factual errors. For instance, Lukashenka was elected president in 1994, *not* in 1992. (170-171) His primary opponent was Viacheslau Kebich, *not* Stanislau Shushkevich, who by 1994 no longer was a serious contender for power. Furthermore, Ragula's book repeats Zianon Pazniak's original 1988 estimate of „over 300,000" victims being buried in the mass graves in Kuropaty outside Minsk. (168, 174) It ignores recent scholarship which gives this number as over 30,000, reducing Pazniak's numbers by up to 90 per cent. Similarly, „Belarus" was not incorporated into the Soviet Union in 1939, (xi) only the Navahrudak, Polesie, Bialystok and parts of Wilno voievodships. Likewise, the claim that the Mensheviks was „a group advocating parliamentary, gradual socialism" (173) is a truth with modifications.

This said, MQUP's initiative to focus on Belarusian history is a step that is very welcome for historians and friends of Belarus alike. It is a very timely move which contributes to bringing Belarus out of the shadows and putting it on the European map.

**Per Anders Rudling**
University of Alberta